Народная Воля http://www.nv-online.info 8 ВЕРАСНЯ 2020 г.

ЖАНЧЫНЫ З ЛЕГЕНДЫ

Анатоль БУТЭВІЧ

# ПЕРШАЯ КАРАЛЕВА ПОЛЬСКАЯ З ЛІТОЎСКАЙ ЗЯМЛІ

*(Працяг. Пачатак у №№63,65,67,69,70.)*

З далёкай і блізкай гісторыі вядома, што ва ўсе часы паміж высокаўладнымі асобамі былі папулярныя "выгадныя партыі" ў шлюбах. Таму і шлюбаваліся, напрыклад, каралеўскі сын з княскай дачкой, месцы пражывання якіх часта падзяляла не адна сотня кіламетраў, да таго ж самі яны жылі ў розных дзяржавах. Здаралася, маладыя размаўлялі на розных мовах, бывала, нават не разумелі адно аднаго. Згадайма хоць бы вялікага князя літоўскага Ягайлу і ягоную першую жонку каралеву польскую венгерскага паходжання Ядвігу. Яны абое напачатку не валодалі мовай краіны, у якой жылі. Шлюб Ягайлу прапанавала дэлегацыя польскай знаці, якая праехала, каб сватаць Ягайлу, больш за 850 кіламетраў: з польскай сталіцы Кракава ў вялікакняскую рэзідэнцыю Крэва.


Калаж Ірыны ПУСТАВАЛАВАЙ.

Вядомая рэч – гэта быў палітычна ангажаваны шлюб. Мяне ж заўсёды займала: а ці звярталі ў такіх выпадках увагу на пачуцці? Як быць з каханнем, асабліва тады, калі нехта з будучых маладажонаў ужо быў абяцаны іншаму? А мо дзейнічаў вядомы народны звычай: бацькам пярэчыць нельга, сцерпіцца – злюбіцца? Але ж і яшчэ адна загадка: ці бачыліся маладажоны да шлюбу? Як уяўлялі сваё сямейнае жыццё менавіта ў такім саюзе? Няўжо адразу згаджаліся на ката ў мяшку? Фотаздымкаў жа, каб пазнаёміцца завочна, тады не было. Гэта ж колькі патрабавалася часу, каб уся гэтая мітусня завяршылася шлюбам! Вельмі часта абставіны не маглі чакаць: то вайна прыспешвала заключыць выгадны шлюб, то неабходнасць захаваць цэлымі свае ўладанні, а то бацькоўскія амбіцыі альбо каралеўскі загад мелі вырашальнае значэнне.

Пра той важны бацькоўскі ўплыў на шлюбаванне сваіх дзяцей сведчаць як многія прыклады, так і пэўныя традыцыі. Цікава звярнуць увагу, хто быў галоўным ініцыятарам шлюбных повязяў. Відаць, дамінавалі ўсё-ткі мужчыны. Верагодна, меркаванне жанчын не ўлічвалася наогул, а калі і звярталі часам на яго ўвагу, то далёка не заўсёды. Таму і раўнапраўя адэкватнага не існавала. Нават у шлюбаванні. Бо яшчэ ў той далёка-далёкі час звыкла казалася пра дзяўчыну: аддалі замуж. І ў гэтым "аддалі" – усе яе правы, усе магчымасці. Не яна была дамінуючай у выбары, за яе вырашалі. Бацькі, родзічы, высокапасадныя асобы. Аднак гэтае "аддалі" датычыла і звыклых людзей, простых, нават бедных. Мо таму яно захоўвалася цягам многіх стагоддзяў, нават да нашага часу дажыло. Ці не чуем мы і сёння пра дачку: часцей – "*аддалі* замуж" і радзей "*пайшла* замуж". Жывучыя традыцыі.

Тое ж самае можна сказаць і пры знаёмстве з жыццём Альдоны – адной з шасці дачок ад трох шлюбаў вялікага князя літоўскага Гедыміна, які ўзышоў на гаспадарскі пасад у 1316 годзе. Прыкладна ў гэты ж час каралём польскім быў Уладзіслаў Лакетка, які намагаўся аб'яднаць польскія землі, знайсці паплечнікаў у барацьбе супраць крыжакоў. Праўду кажучы, акрамя Тэўтонскага ордэна не давала спакою суседзям і Вялікае Княства Літоўскае. Вось і вырашыў Лакетка скарыстаць мірны шлях нейтралізацыі вайсковых памкненняў суседа.

Пачатак 1325 года. Пасольства польскага караля Уладзіслава Лакеткі прыбыло ў Вільню да вялікага князя літоўскага Гедыміна. Задача ў паслоў нібыта простая, бытавая – упрасіць Гедыміна, каб аддаў сваю дачку Альдону за каралевіча Казіміра. Але ж і перашкодаў хапае. Адна з іх рэлігійная. Каралевіч – каталік, Альдона – язычніца. Цікавая завязка. Ды паслы памятаюць галоўную мэту такога шлюбу – абараніць палітычныя інтарэсы Польшчы. А калі зладзіцца шлюб, то ўдасца яшчэ выбавіць з вялікалітоўскага палону тысячы палякаў. Ды і надзейны саюзнік супраць Тэўтонскага ордэна вельмі патрэбны.

Удалося паслам і тое, і другое, вырашылася нават трэцяе. Было заключана першае ў гісторыі мірнае пагадненне і ваенны саюз з вялікім князем літоўскім Гедымінам супраць крыжакоў, утварыўся польска-вялікалітоўскі саюз у процівагу Тэўтонскаму ордэну. Выканалі паслы і сваю галоўную місію – угаварылі Гедыміна, згадзіўся ён на шлюб Альдоны з Казімірам. Адразу ж у Кракаве і Вільні пачалося ажыццяўленне задуманага.

Але хутка толькі казка кажацца. А да каралеўскай кароны трэба зрабіць нямала крокаў.

У ганаровым суправаджэнні і пышна сустрэтая прыбыла Альдона ў Кракаў. Аднак да шлюбу было яшчэ няблізка. Альдона мусіла хоць крыху авалодаць польскай мовай, каб размаўляць з мужам без перакладчыка. Але адна бяда не ходзіць. Аказалася, патрэбна згода Папы Рымскага на шлюб каталіка з язычніцай. Што зробіш, давялося ахрысціцца і Альдоне. Адбылося гэта 30 красавіка 1325 года. Нядаўняя язычніца Альдона стала каталічкай Аннай, хоць часцей за ўсё новыя суайчыннікі называлі яе проста, па-нашаму, Ганнай. Вось яна ўжо і каталічка, і чужую мову стала разумець. Можна і да шлюбу.

Але…

Аказалася, у каралевіча Казіміра адносна сямейных повязяў былі свае намеры. Акрамя таго, што ён да гэтага не спавядаў цнатлівага жыцця, вызначаўся канфліктамі на дзяржаўным полі, дык ён у дзяцінстве ўжо быў заручаны з Бонай з Люксембургаў – каралеўнай чэшскай. Існаваў тады такі звычай – шлюб на будучыню, які заключалі бацькі, пакуль шлюбаванцы не дасягнуць паўналецця. Знакаміты зачараваны трохкутнік. Натуральна, Казімір не меў аніякага жадання шлюбавацца з невядомай яму ды яшчэ з "дзікага язычніцкага краю" Альдонай.

Але…

Як бывала часта, усё вырашыла воля Казіміравага бацькі – чаго ж ён пасылаў так далёка паслоў? Чаго марнавалі яны свой час і казённыя сродкі? Хіба проста было атрымаць згоду бацькі Альдоны? Хіба будуць чакаць крыжакі, пакуль жаніх і нявеста разбяруцца са сваімі супярэчнасцямі? А ці падумаў хто пра стан і пачуцці самой Альдоны, якую так прыязна сустрэла польская сталіца і так "прыязна" паставіліся да яе ў каралеўскім доме? Ды што зробіш – палітычная выгада для дзяржаўцаў важней за пачуцці маладых. Запярэчыць бацьку сын не мог, а Альдона не мела права ўцякаць з Кракава. Таму і паплыла нармандская герцагіня Бона Люксембургская ў сямейны чоўне зусім у іншым накірунку. Яе аддалі замуж за каралевіча французскага Іаана (Жана) II Добрага з роду Валуа, у выніку чаго яна стала каралевай Францыі.

І толькі праз шэсць месяцаў пасля прыезду Альдоны ў Кракаў адбыўся ўрачысты шлюб. 16 кастрычніка 1325 года 15-гадовая дачка вялікага князя літоўскага Гедыміна Альдона стала жонкай 15-гадовага сына караля польскага Уладзіслава Лакеткі Казіміра. Яе галоўным пасагам сталі амаль 24 тысячы палякаў, якіх бацька Альдоны выбавіў з палону. Шлюб меў вялікае сімвалічнае значэнне: упершыню хрысціянская Польшча так цесна зыбліжалася з на той час язычніцкай Літвой (Княствам). Сучасныя тым падзеям хронікі адзначалі, што гэта быў саюз "для дабра і міру Каралеўства Польскага".

Ды не толькі з заходнім суседам парадніўся Гедымін праз шлюб сваёй дачкі. Іх у яго, як згадвалася, было шэсць. Лізавета (Эльжбета) Гедымінаўна была замужам за сынам мазавецкага князя Баляслава II Вацлавам Плоцкім. Сястра Альдоны Офка (Яўфрэмія) пашлюбілася з галіцка-валынскім князем Юрыем II Баляславам. Марыя стала жонкай вялікага князя цвярскога і ўладзімірскага Дзмітрыя Міхайлавіча Грозныя Вочы. Яшчэ адна дачка Гедыміна Айгуста (у хрышчэнні Настасся) мела шлюб з сынам маскоўскага князя і вялікага князя ўладзімірскага Івана Каліты будучым князем маскоўскім і вялікім князем уладзімірскім Сямёнам Іванавічам Гордым. Натуральна, што за кожным шлюбам стаяла палітычная і дзяржаўная выгада. Для абодвух бакоў. Іначай і быць не магло ў той ваяўнічы і неспакойны час. Таму некаторымі даследчыкамі Гедымін лічыцца ці не першым вялікім князем літоўскім, які так грунтоўна выбудоўваў сувязі з рускімі землямі, хоць, што праўда, і ваяваў з імі таксама.

Аднак найбольш вядомым аказалася шлюбаванне Альдоны з Казімірам. Пра гэты ўдалы і выгадны для іх шлюб палякі помнілі заўсёды. Нават праз два з паловй стагоддзі згадвалі пра яго, калі ў 1569 годзе ўгаворвалі прадстаўнікоў Вялікага Княства Літоўскага падпісаць Люблінскую унію. Многія магнаты ВКЛ адчайна супраціўляліся аб'яднанню ў адну дзяржаву Кароны і Княства. Польская ж шляхта спасылалася на даўнюю традыцыю цесных повязяў, прыводзячы ў прыклад адносіны паміж Лакеткам і Гедымінам, а таксама шлюб Альдоны і Казіміра.

Пасля смерці бацькі ў 1333 годзе 23-гадовы Казімір афіцыйна стаў каралём польскім, а Альдона – каралевай. Варта падкрэсліць, што каранаваліся яны адначасова, бо пазней для каралеўскіх жонак з іншых зямель гэта стала праблематычным.

Нялёгкі то быў час для краіны. Не ўдалося Лакетку-бацьку дабіцца не толькі адзінства зямель, але і адзінства ўлады. Гэта вялікім цяжарам лягло на плечы маладога караля Казміра III. Не сагнуўся ён. Справіўся. За 37 гадоў знаходжання на высокім пасадзе стаў асабліва шанаваным польскім каралём, добра вядомым ва ўсёй Еўропе. Прыняў Польшчу не надта моцнай і раздробленай, а пакінуў з'яднанай і магутнай. Пры ім польская тэрыторыя павялічылася больш як у два разы.

Спрыяла мужу і Альдона. Не пакідаў без увагі клопаты дачкі і зяця вялікі князь літоўскі Гедымін, які стаў ужо даволі ўплывовай палітычнай фігурай. Праз мірныя дамовы з суседзямі Казіміру ўдалося нейтралізаваць знешніх ворагаў. А разумныя ўнутраныя рэформы ўмацавалі каралеўскую ўладу. Нездарма Казіміра першым (і адзіным) у польскай гісторыі назвалі Вялікім. Ды захаваліся звесткі, што ў звыклым жыцці быў ён і вельмі жорсткім, несправядлівым, занадта актыўным прыхільнікам жаночай прыгажосці нават пры жывых жонках.

Альдона ж, якая з маладых гадоў захаплялася музыкай, танцамі, валодала высокімі маральнымі якасцямі, не разгубіла сваіх захапленняў і прынцыпаў і на высокім каралеўскім пасадзе. Як сведчыць польскі храніст Ян Длугаш, ва ўсіх выездах каралеву суправаджалі спевакі з арфамі, барабанамі і гуслямі.

Альдона-Ганна нарадзіла дзвюх дачок – Эльжбету і Кунігунду. Памерла яна 26 мая 1339 года. Пахавалі ў Вавельскім кафедральным касцёле Кракава. Гэта было першае пахаванне каралевы ў Вавелі. А Казіміру давялося жаніцца яшчэ двойчы. З другой жонкай развёўся з-за яе няздольнасці нарадзіць дзіця. За ўсё сваё сямейнае жыццё яму так і не пашчасціла мець сыноў, каб па спадчыне перадаць каралеўскую карону. Таму пасля смерці 5 лістапада 1370 года 60-гадовага Казіміра III Вялікага, апошняга са старажытнага роду Пястаў, польскі каралеўскі пасад заняў кароль венгерскі Людовік Вялікі (Людвік Венгерскі) з Анжуйскай дынастыі, бацька будучай каралевы польскай і першай Ягайлавай жонкі Ядвігі. Быў ён сынам венгерскага караля Карла Роберта і Лізаветы, дачкі Уладзіслава Лакеткі і сястры Казіміра III Вялікага.

Вось якія гістарычныя выкрутасы бываюць на шлюбным полі.

*(Працяг будзе.)*

СУМНАЯ ГІСТОРЫЯ

# У 32-гадовай жанчыны інсульт пасля затрымання мужа

*У сям'і чацвёра дзяцей*



***Юліі Сахарук, маці чацвярых дзяцей з Пружан, тэрмінова патрэбна рэабілітацыя. Ад стрэсу, атрыманага падчас затрымання мужа, яна перанесла ішэмічную атаку галаўнога мозга і інсульт.***

## Моцны стрэс падарваў здароўе

Амаль тры тыдні Юлія Сахарук правяла ў рэанімацыі Брэсцкай абласной бальніцы на апараце штучнай вентыляцыі лёгкіх. Медыкі звязваюць яе цяжкі стан з моцным стрэсам, перажытым 10 жніўня.

31 жніўня Юлію перавялі з рэанімацыі ў звычайную палату. У маладой жанчыны паралізавана левая частка цела (рука, нага), запаволена гаворка. Калі падключалі да апарата ШВЛ, выдалілі восем зубоў. Расказваючы гэтую гісторыю, муж Юліі **Анатоль Сахарук** не можа стрымаць слёз.

– Мая жонка – вельмі моцны чалавек. Усе, хто яе ведае, адзначаюць, што ў Юліі вельмі цвёрды характар, яна моцная духам, актыўная па жыцці. Чаму з ёй так здарылася, у маёй галаве не ўкладваецца. Але загадчык аддзялення нейрахірургіі Брэсцкай абласной бальніцы, дзе цяпер Юля праходзіць лячэнне, пацвердзіў, што ў такім узросце менавіта стрэс справакаваў інсульт, – кажа Анатоль.

## Людзей затрымлівалі супрацоўнікі аддзела аховы ў форме АМАПа

10 жніўня ў Анатоля, аўтаслесара станцыі тэхабслугоўвання з Пружан, быў дзень народзінаў – яму споўнілася 35.

А 8-й вечара ён з жонкай Юліяй і сябрам ішлі ў кавярню, каб адзначыць свята. Прычым ішлі не па цэнтральнай вуліцы і далёка ад плошчы. Метраў за 100 ад іх спыніўся аўтобус з АМАПам. Выскачылі людзі ў чорным, узброеныя шчытамі і дубінкамі.

– Хто быў на вуліцы, разбегліся, пабег і наш сябар. А мы проста стаялі з жонкай, трымаючыся за рукі. Пружаны – гарадок невялікі, людзі адзін аднаго ведаюць. Свайго АМАПа ў Пружанах няма, у чорную ўніформу пераапранулі супрацоўнікаў аддзела дэпартамента аховы. Прычым Пружанскі райаддзел міліцыі мае дамову на абслугоўванне службовага аўтатранспарту са станцыяй тэхабслугоўвання, дзе я працую. Да таго ж да мінулага года ў аддзеле аховы працаваў Юлін брат. Гэта значыць і мяне, і Юлю ўсе ведаюць. Гучыць каманда: "Грузі ў аўтазак". Міліцыянер падбягае да нас, разбівае нашы рукі сваімі пальчаткамі, хапае мяне і цягне ў аўтазак. Каманду даваў **Дзмітрый Фамянюк**, – расказвае Анатоль Сахарук.

Ён не супраціўляўся, казаў, што пойдзе сам. Запытваўся ў міліцыянераў, за што яго затрымліваюць, пераконваў, што нічога не парушаў, не крычаў, проста ішоў з жонкай па вуліцы. Папрасіў перадаць ёй ключы ад дома і тэлефон.

– Пасадзілі мяне ў аўтазак, я зноў тлумачу, што нічога супрацьзаконнага не рабіў. Да таго ж у мяне чацвёра непаўналетніх дзяцей, малодшай дачцэ тры гады. Адзін міліцыянер, які мяне ведае, пытаецца, што рабіць. Яны параіліся паміж сабой і вырашылі мяне адпусціць.

А Юлія вельмі перапалохалася. Калі мяне нарэшце выпусцілі, мы адышлі ўбок, агледзеліся – на руках сінякі.

– Позна ўвечары Юлія сказала, што пачуваецца так сабе. Мы крыху пагулялі на вуліцы, падыхалі свежым паветрам, – працягвае свой расповед Анатоль.

Ён паказаў перапіску ў мабільным тэлефоне Юліі з братам, які раней служыў у аддзеле аховы. Юлія напісала, што кіраваў затрыманнямі **Аляксандр Кунда** і начальнік пашпартнага стала. І што яе па руках біў асабіста Аляксандр Кунда.

## Юліі неабходна тэрміновая рэабілітацыя

На наступны дзень, 11 жніўня, Юліі стала зусім дрэнна. Выклікалі "хуткую дапамогу", яе забралі з падазрэннем на інсульт спачатку ў рэанімацыю Пружанскай раённай бальніцы. Потым перавялі ў Брэсцкую абласную. Амаль тры тыдні Юлія прабыла ў рэанімацыі, толькі некалькі дзён таму яе перавялі ў неўрахірургічнае аддзяленне. У яе паралізаваны левая рука і левая нага.

Юліі Сахарук 32 гады, у сям'і чацвёра дзяцей. Старэйшаму сыну 15 гадоў, малодшай дачцэ – тры. Анатоль на працы браў адпачынак, трэба было і дзяцей даглядаць, і да жонкі ў Брэст ездзіць. Толькі-толькі выйшаў на працу. Кажа, што не было часу падаць заяву са скаргай на дзеянні міліцыі. Сёння збіраецца заключыць дамову з адвакатам, каб юрыст запатрабаваў усе медыцынскія заключэнні і даведкі пра стан жонкі.

У Пружанах створана мясцовая Каардынацыйная рада, якая дапамагае пацярпелым. Яна падтрымлівае сям'ю Сахарукоў і матэрыяльна, і маральна.

– Юлія цяпер у Брэсцкай абласной бальніцы. Ёй патрэбна рэабілітацыя, але з прычыны каранавіруса рэабілітацыя праводзіцца толькі для хадзячых хворых, а Юлія – ляжачая. Мы звяртаемся да медыцынскіх цэнтраў, шукаем, хто можа дапамагчы жанчыне стаць на ногі. У яе ж чацвёра дзетак, – кажа старшыня Каардынацыйнай рады **Ганна Баран**.


Аляксандар Кунда, камандзір аддзялення груп затрымання Пружанскага аддзела дэпартамента аховы МУС.

## Пружанская міліцыя не каментуе

Я звязалася з намеснікам начальніка аддзела ўнутраных спраў Пружанскага райвыканкама па ідэалагічнай рабоце і кадравым забеспячэнні падпалкоўнікам **Юрыем Неміровічам** з пытаннямі, чым былі выкліканы жорсткія затрыманні 10 жніўня ў Пружанах і чаму супрацоўнікі аддзела аховы былі ў той вечар у форме АМАПа. Юрый Анатольевіч паведаміў, што *«грамадзяне Анатоль і Юлія Сахарукі 10 жніўня міліцыяй не затрымліваліся. Скаргаў ад іх на стан здароўя не паступала. Усё астатняе – без каментарыяў»*.

Што да іншых пытанняў, у тым ліку пра выкарыстанне формы АМАПа супрацоўнікамі аддзела аховы, – параіў звяртацца ў пісьмовай форме.

**Іна СТУДЗІНСКАЯ.**

*(Радыё Свабода)*

Народная Воля http://www.nv-online.info
8 ВЕРАСНЯ 2020 г.

ВНЕ ИГРЫ



С Алесем СИВЫМ

# Взлет и падение Дмитрия Баскова

9 сентября состоятся выборы нового председателя Федерации хоккея Беларуси. Прежний руководитель Геннадий Савилов подал в отставку, и сейчас генеральный директор минского «Динамо» Дмитрий Басков является единственным кандидатом, который выдвинут на этот пост.

В своей спортивной карьере Басков, мягко говоря, звезд с неба не хватал. Поиграл вратарем в «Бресте», «Витебске», гродненском «Немане», но не более того. Рядовой хоккеист, фамилию которого не все болельщики и помнят. Тем более что зарубежные клубы этим кадром не интересовались.

А вот в Беларуси карьера у молодого человека после ухода из спорта пошла в гору. И, по случайному совпадению, после того, как Дмитрий Басков сначала начал тренировать команду, в которой играл Лукашенко-младший, а потом стал тренером Президентской хоккейной команды, за которую, как известно, выступает Лукашенко-старший.

Уже в 2018 году Басков был назначен на должность генерального директора хоккейного «Динамо». Должность хорошая, вот только результаты у команды были нулевые. Одни сплошные антирекорды!

Но оказалось, что рыба гниет не с головы. Баскова не только оставили на прежней должности, но еще и выдали пару кредитов доверия. Сначала нашли финансирование на содержание команды, хотя до последнего этот вопрос оставался открытым, а потом и вовсе стало известно, что гендиректора «Динамо» выдвигают на пост председателя Федерации хоккея. Казалось бы, Дмитрию Юрьевичу надо радоваться такому карьерному взлету, но…

Еще до выборов у Баскова голова болела не только о хоккее. Очень его беспокоила необходимость сплотиться вокруг единственного *«лидера в стране – действующего президента, чтобы вместе в ближайшие годы найти ответ на проблемы и вызовы, стоящие перед народом Беларуси»*.

Когда после 9 августа людей начали избивать (и убивать) на улицах, а Центр изоляции правонарушителей на Окрестина превратился в филиал концлагеря, народ и на самом деле сплотился и высказал все, что думает о «лидере». А в это самое время Дмитрий Басков записывал видео, на котором со словами «А, хорошо!» отхлебывал из горла водку «Президент» после акции в поддержку Александра Лукашенко.

Вот достойный пример руководителя хоккейного клуба для всех юных хоккеистов! Образец того, на что должны равняться все спортсмены!

И надо сказать, что креатив Баскова болельщики оценили сполна. Фанаты минского «Динамо» уже отказались от поддержки команды в этом сезоне, а после финала Кубка Салея в Гомеле зрители так освистали Дмитрия Баскова, которого пригласили на лед для вручения трофея, что тому впору было сгореть от стыда от такой «народной любви».

Кстати, первый матч КХЛ, в котором «Динамо» должно было сыграть с финским «Йокеритом», не состоялся. Болельщики финского клуба, которые знакомы с тем, что сейчас происходит в Беларуси, призвали своих кумиров проявить солидарность с белорусами и не лететь в Минск. Иначе пригрозили бойкотом. Клуб к болельщикам прислушался.

Правда, тот же Дмитрий Басков затем заявил, что *«были угрозы в адрес финских игроков и руководителей»*, а во время игры планировалась какая-то *«атака»*. У руководителя финского клуба Яри Курри несколько иная трактовка того, что произошло: *«Сейчас не время играть в Беларуси»*.

Я, конечно, искренне желаю Дмитрию Юрьевичу дальнейших успехов в жизни и карьере, но свой матч с любителями хоккея, как мне кажется, он уже проиграл. Если ему, конечно, это важно.

Хотя карьера – это здорово. Правда, иногда кажется, что ты на взлете, а на самом деле – упал на самое дно. Так, кстати, не только в спорте, но и в политике.

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## Андрэй КРАЎЧАНКА:

# «Я ўжо не маёр КДБ…»

*Сярэбраны прызёр Алімпіяды-2008 па дзесяцібор'і распавёў "Народнай Волі", як з-за сваёй грамадзянскай пазіцыі застаўся без працы.*




– Я насамрэч разам з іншымі спартсменамі паставіў подпіс пад лістом, у якім выказаўся супраць гвалту ў краіне, за прыцягненне да адказнасці тых, хто збіваў і забіваў людзей, за правядзенне сумленных выбараў, – *кажа Андрэй.* – А зараз высветлілася, што застаўся і без працы, і без трэніровак. І, шчыра кажучы, гэта не стала нечаканасцю. Ведаў, што так будзе, яшчэ ў той момант, калі ставіў подпіс.

**– Міністэрства спорту і турызму "ацаніла" вашу грамадзянскую пазіцыю?**

– Міністэрства спорту мне слова не сказала, затое па іх ініцыятыве мяне адкамандзіравалі на службу ў КДБ, дзе я і лічыўся ў штаце. Гэта значыць, што трэба было ехаць у Маладзечна ў вайсковую часць і яшчэ шэсць гадоў жыць у казарме – менавіта столькі мне заставалася служыць да пенсіі.

Шэсць гадоў не бачыць сям'ю, не трэніравацца – поўнае глупства! Я на такія ўмовы не пайшоў бы ніколі ў жыцці. Сядзець там і паперкі перабіраць? Гэта не па мне. Натуральна, ад такой прапановы я адмовіўся і напісаў рапарт аб звальненні. Дзеля праўды ахвяраваў камфортам. І гэта было маё асабістае рашэнне.

**– У якім званні былі?**

– Маёр КДБ, цяпер ужо былы. Дарэчы, заробак быў не такі і вялікі – крыху больш за тысячу рублёў.

**– Думаеце, пад санкцыі спартыўных чыноўнікаў патрапяць усе спартсмены, якія паставілі подпісы пад тым лістом?**

– Хацелася б верыць, што толькі мяне прынеслі ў ахвяру, каб іншых павыхоўваць. Але вельмі моцна ў гэтым сумняваюся.

**– Крыўдна за тое, як Радзіма аддзячыла вам за ўсё тое, што вы для яе зрабілі за час выступленняў на міжнародных спаборніцтвах?**

– Мне крыўдна за тое, што людзей прэсуюць проста за тое, што яны кажуць праўду. За тое, што яны ўказваюць на відавочныя рэчы. Я кажу: "Вы правялі непразрыстыя выбары, скралі мой голас". А мне ў адказ: "Ты Радзіму не любіш". Кажу: "Навошта людзей збіваеце?" – "Ты абараняеш п'яніц і наркаманаў".

У мяне ёсць рэальныя знаёмыя, якіх моцна збілі праваахоўнікі, але гэта ніякія не п'яніцы, а нармальныя грамадзяне Беларусі, віна якіх толькі ў тым, што яны не хочуць хлусіць самім сабе.

У мяне сэрца крывёй абліваецца, калі я кожны дзень бачу абсалютнае беззаконне. Я думаю, што зараз ва ўсіх нервы на мяжы.

**– Але многія спартсмены маўчаць, не далучаюцца да тых, хто публічна асудзіў такія дзеянні…**

– Ёсць спартсмены, а ёсць людзі. І найперш ты – не спартсмен, а Чалавек з уласнай пазіцыяй і сумленнем. З гэтым жыць кожнаму. Але, відаць, не ў кожнага гэтае сумленне прачнулася. А, можа быць, некаторыя проста ціха сядзяць і чакаюць, куды вецер падзьме.

**– Чым зараз будзеце займацца? Са спортам вы ж не збіраліся развітвацца…**

– Наўрад ці я ўжо змагу выступаць на спаборніцтвах, хаця трэніравацца, безумоўна, можна. Мяне ж паказальна прыбралі са зборнай, і не для таго, каб туды вяртаць.

Дарэчы, я нават хацеў паспрабаваць сябе ў іншым відзе спорту. У мяне мара – гуляць у гандбол.

Але дакладных планаў на бліжэйшую будучыню пакуль няма. Натуральна, з краіны не хочацца з'язджаць. Хочацца застацца, быць побач са сваёй сям'ёй, з сапраўднымі людзьмі, якія рэальна перажываюць за сваю краіну. І яшчэ не вядома, што далей будзе адбывацца ў Беларусі.

Дарэчы, гадоў восем таму я атрымліваў прапановы змяніць грамадзянства, выступаць пад іншым сцягам. Многія маглі з'ехаць нават у ЗША, дзе можна было і вучыцца ў каледжы, і выступаць на спаборніцтвах. Але мой дом тут. Мая краіна – Беларусь.

**– Кажуць, што пасля выбараў пайшоў раскол у беларускім грамадстве…**

– Адназначна, хаця я наогул не разумею тых, хто гэты рэжым падтрымлівае. Альбо гэтыя людзі проста сляпыя, альбо ў іх наогул няма нічога чалавечага. І з тымі знаёмымі, якія маюць такія погляды, я ўжо не маю ніякіх зносін. Таму зараз падтрымліваю кантакты толькі са сваімі аднадумцамі, з сям'ёй…

**– Сям'я вялікая?**

– Жывём з жонкай у Мінску ў грамадзянскім шлюбе, падрастае дачушка, якой усяго дзевяць месяцаў. Таму трэба будзе круціцца.

А пакуль што ёсць знаёмыя і сябры, якія сказалі, што на першы час не кінуць мяне сам-насам з маімі праблемамі. Добрых людзей вельмі шмат. Рэальна спагадлівых людзей, а не тых, хто, як страусы, схавалі галаву ў пясок.

**– Многія спартсмены, пакуль выступаюць, стараюцца адкладваць грошы, каб затым, пасля сыходу на "цывільнае" жыццё, была падушка бяспекі…**

– Я вельмі шмат асабістых грошай патраціў на аперацыі на назе – больш за 20 тысяч еўра. Напрыклад, перадапошняя аперацыя, якую рабілі ў Італіі, каштавала 11 тысяч еўра. А ўсяго мне зрабілі сем аперацый.

Да слова, усе аперацыі былі пад поўным наркозам, што таксама не вельмі добра для здароўя. Яшчэ добра, што я ад прыроды вельмі моцны. Калі б на маім месцы быў хтосьці слабейшы, то наступствы маглі быць самыя непрадказальныя.

**– Адным словам, вам спорт здароўя асабліва не дадаў.**

– Адназначна. Сёння чыноўнікі папракаюць спартсменаў: "Навошта вы выступаеце супраць дзеючай улады? Вам дзяржава дапамагае, а вы такія няўдзячныя". Усе бачаць толькі тое, што нам далі. А нічога, што мы ўзамен сваім здароўем разлічваемся? Мы ж не на прагулку ў магазін ходзім, а штодзень так арганізм нагружаем, што ён проста разрываецца.

Таму не трэба нас вінаваціць, што мы тут ледзь не на шыі ў дзяржавы сядзім. Таксама многім ахвяруем, каб выйграць спаборніцтвы і праславіць дзяржаву.

І, шчыра кажучы, хацелася б яшчэ нейкі час пабыць у спорце, запал яшчэ ёсць.

**– Не шкадуеце, што патрапілі ў такую сітуацыю?**

– Ні на кроплю! Я, наадварот, ганаруся і сабой, і тымі людзьмі, якія не маўчаць. І якія не ідуць супраць свайго сумлення.

**Алесь СІВЫ.**

ШАХМАТЫ

## «Ідэальная» задача

Сваю новую задачу прапануе майстар спорту **Мікалай Бельчыкаў** з Барысава *(гл.дыяграму).*




**Белыя:** Кре3, Ле6, Лh6 (3).

**Чорныя:** Крf5, пп. a5, g5 (3).

**Мат за 3 хады.**

У рашэнні абодва варыянты заканчваюцца гэтак званым ідэальным матам. У ідэальным маце задзейнічаны ўсе фігуры і пешкі бакоў, якія знаходзяцца на дошцы, а ўсе вольныя палі вакол атакаванага караля б'юцца процілеглым бокам роўна адзін раз альбо заняты ўласнымі фігурамі ці пешкамі.

Дасылайце рашэнні на адрас рэдакцыі ***(220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а)*** або на электронны адрас: ***vadim_ne67@mail.ru.***

## Ведай нашых!

Беларускія складальнікі досыць паспяхова выступілі ў VIII Кубку свету ФІДЭ па шахматнай кампазіцыі. Задача брэстаўчаніна **Аляксандра Варыцкага** заваявала трэці ганаровы водгук.

**Белыя:** Крd3, Лg6, Cd4, Cf7, Кс4, Кd6, пп. b6, c2, d7, g3 (10).

**Чорныя:** Кра4, Лh1, Сс1, Сс6, Кg1, пп. a5, b7, g4 (8).

**Мат за 8 хадоў.**

Не праходзіць 1.Сс5? (2.Кb2+ С:b2 3.Cb3x) Cb5! Рашае 1.Лg5! (2.Л:а5+ Крb4 3.Сс3/Сс5х) C:g5 2.Сс5 Cb5 3.Кре4 Сс6+ 4.Крf5 С:d7+ 5.Кре4 Сс6+ 6.Крd3 Cb5 7.Се8! С:е8 8.Кb2х, 6...Cf6 7.Кb2+ С:b2 8.Сb3 х.

Задача **Міхаіла Храмцэвіча** (г.Бабруйск) атрымала пахвальны водгук.

**Белыя:** Кра4, Фа8, Лb7, Ле6, Са5, Ch1, Кd3, пb3 (8).

**Чорныя:** Крс6, Фd7, Лd5, Cd6, пп. d4, e7, h2 (7).

**Зваротны мат за 3 хады.**

Паводле ўмоў задання белыя вымушаюць чорных паставіць ім (белым) мат. Не вядзе да мэты 1.Cb6? zz 1...Ф~ 2.Лс7+ Кр:b6 3.Фа5+ Л:а5х, 1...Ф:b7 2.Ке5+ Кр:b6 3.Фа5+ Л:а5х, але 1...Фе8! Рашае 1.Cd8! zz 1...Ф~ 2.Лс7+ Крb6 3.Фа5+ Л:а5х, 1...Фе8! 2.Лd7+ Кр:d7 3.Фс8+ Кр:с8х, 1...Ф:b7! 2.Ке5+ Крс5 3.b4+ Ф:b4х, 1...Ф:d8! 2.Фа6+ Фb6 3.Лb:е7 Ф:а6 х.

## Сусветны віртуальны форум

Зборная Беларусі стала ўдзельнікам сусветнай анлайн-алімпіяды ФІДЭ, у якой 163 каманды былі разбіты на некалькі дывізіёнаў, прычым пераможцы кожнага этапу працягвалі барацьбу далей. Склад нашай каманды: на мужчынскіх дошках – **Уладзіслаў Кавалёў** і **Аляксей Аляксандраў** (запасныя – **Кірыл Ступак** і **Вячаслаў Зарубіцкі**), на жаночых – **Вольга Бадэлька** і **Анастасія Зязюлькіна** (запасныя – **Ланіта Сцяцко** і **Яна Ільючык**), на юніёрскіх – **Міхаіл Нікіценка** і **Аляксандра Тарасенка** (запасныя – **Дзяніс Лазавік** і **Ксенія Зелянцова**). Наша зборная заняла толькі шостае месца з дзесяці ў сваёй групе і выбыла з далейшай барацьбы. Мы яшчэ вернемся да гэтай тэмы.

## «Легенды шахмат»

Пад такой назвай адбыўся чарговы анлайн-турнір вядучых шахматыстаў свету. Сярод удзельнікаў быў вядомы беларускі і ізраільскі гросмайстар, былы віцэ-чэмпіён свету **Барыс Гельфанд**. Вось некалькі партый з гэтага спаборніцтва.

***Барыс Гельфанд – Васіль Іванчук***

1.Kf3 Kf6 2.c4 g6 3.Кс3 d5 4.cd К:d5 5.e4 К:с3 6.bc Cg7 7.Лb1 0-0 8.h4 c5 9.h5 Кс6 10.hg hg 11.Фе2 b6 12.Фе3 Фd6 13.Фg5 Фе6 14.Фh4 Лd8 15.Cb5 Лd6 16.Кg5 Ф:а2 17.Лb2 Фа1 18.0-0 Са6 19.С:а6 Ф:а6 20.f4 Лf6 21.Кh7 Фd3 22.К:f6+ ef 23.Ле1 Лd8 24.Ле3 Фс4 25.Фе1 Фе6 26.d3 Лd7 27.Лf2 Cf8 28.f5 Фd6 29.Лh3 Ке5 30.Cf4 g5 31.С:е5 Ф:е5 32.Лс2 Cd6 33.Фе2 Крf8 34.Лh8+ Кре7 35.Фh5 Фg3 36.Лf2 Cf4 37.Фh6 Крd6 38.Лс8 Лс7 39.Ф:f6+, 1:0.

***Ян Няпомнячшы – Дзін Ліжэнь***

1.e4 e5 2.Kf3 Кс6 3.d4 ed 4.К:d4 Kf6 5.К:с6 bc 6.e5 Фе7 7.Фе2 Kd5 8.c4 Са6 9.h4 f6 10.Лh3 fe 11.Cg5 Kf6 12.Ле3 d6 13.Фf3 e4 14.Фd1 d5 15.Кс3 Cb7 16.cd cd 17.C:f6 Ф:f6 18.К:d5 С:d5 19.Cb5+ Cc6 20.Л:е4+ Се7 21.Фd5 Лd8 22.C:c6+ Крf8 23.Фс4 Cd6 24.Лd1 g6 25.Лd3 Крg7 26.Лf3 Ф:b2 27.Лf7+ Крh6 28.g4 Фb1+ 29.Кре2 Cb4 30.Лd4 Лhe8+ 31.Крf3 Фh1+ 32.Крg3 Фg1+ 33.Крh3 Ле3+ 34.fe Ф:е3+ 35.Cf3, 1:0.

## Не стала майстра

Пайшла з жыцця брэсцкая шахматыстка, майстар спорту **Анастасія Волчак** (1981–2020), віцэ-чэмпіёнка Беларусі сярод жанчын і неаднаразовая чэмпіёнка краіны сярод дзяўчат.

## Праверце адказы

Задача **М.Наруця**, змешчаная ў "Народнай Волі" 28 ліпеня, рашаецца: 1.0-0-0! c2 2.Лd3+, 1…Кра2(а3) 2.Крс2. Не вядзе да мэты спроба 1.Крd1? Крb2!.

Першымі правільна рашылі **Сяргей Галкін, Славамір Буката, Мікалай Шклярэўскі, Васіль Жуковіч, Віктар Жук, Сяргей Цяльпук**.

**Вадзім ЖЫЛКО.**

ШЧОДРАЕ СЭРЦА

# Знайдзіся, дзіця!

***Вера Паўлаўна Ложачнік,*** *маці-выхавальніца першага ў Барысаве дзіцячага дома сямейнага тыпу, пераможца конкурсу "Жанчына года – 2019" у намінацыі "Мацярынская слава":*

– Некалькі гадоў запар мы з мужам Васілём Марцінавічам па запрашэнні Сацыяльна-педагагічнага цэнтра Барысаўскага раёна выступалі на прадпрыемствах нашага горада, расказвалі пра свой вопыт прыёмнага бацькоўства, заклікалі не баяцца дапамагчы дзецям, якія засталіся без апекі блізкіх людзей. Даводзілі, што гэтыя дзеці зусім не безнадзейныя і не больш схільныя да дрэнных учынкаў, чым іх равеснікі са звычайных сем'яў. Асабіста я ўпэўнена: кожнае дзіця вартае павагі і любові. А калі да дзіцяці праявіць гэтыя пачуцці, яно імкнецца адказаць тым жа.

Так, у сваіх біялагічных сем'ях гэтыя хлопчыкі і дзяўчынкі былі абдзелены дабрынёй, любоўю, клопатам. Часам яны маюць калючыя характары, таму што спазналі шмат жыццёвых цяжкасцяў і выпрабаванняў, але пад уплывам цяпла і пяшчоты "калючкі" адпадаюць, і дзеці становяцца звычайнымі дзецьмі – адкрытымі, даверлівымі, добрымі. Трэба толькі сагрэць іх сэрцы.

Нашаму дзіцячаму дому сямейнага тыпу хутка будзе 20 гадоў. За гэты час мы з мужам змаглі дапамагчы 27 дзецям, якія аказаліся ў цяжкай жыццёвай сітуацыі. Многія з іх прыходзілі ў нашу сям'ю напалоханымі, псіхалагічна траўміраванымі, усяго баяліся і нікому не давяралі, але потым адагрэліся і былі вельмі шчаслівыя з намі.



Зараз яны атрымалі адукацыю, працуюць, выйшлі замуж або ажаніліся, але не парываюць сувязяў з сям'ёй, дзе выраслі, часта тэлефануюць нам, прыязджаюць. Дзеляцца сваімі радасцямі, журботамі. Збіраюцца ў нас на святы.

Дзяцей-сірот і дзяцей, якія засталіся без апекі бацькоў, мы выхоўваем з 2001 года. Як прыйшлі да гэтага рашэння? Я нарадзіла і выгадавала шасцярых дзяцей. Пры гэтым мы з мужам часта клапаціліся пра дзяцей з сем'яў, дзе бацькі п'янствавалі: мы забіралі малых да сябе пажыць, кармілі. А потым ва ўпраўленні адукацыі нам прапанавалі стварыць сямейны дзіцячы дом. Першыя дзеткі прыйшлі да нас з сям'і, дзе прабабуля выхоўвала трох хлопчыкаў. Гэта былі маленькія блізняты Саша і Сярожа і васьмігадовы Міша. Я заўсёды старалася не разлучаць братоў, сясцёр – калі забіраць, дык усіх дзяцей адразу. Іх бацькі былі пазбаўлены бацькоўскіх правоў. Цяпер гэтыя хлопцы ўжо дарослыя, пастаянна нас наведваюць, цікавяцца, як ідуць справы ў нашых цяперашніх выхаванцаў. Услед за Мішам, Сашам і Сярожам з'явіліся яшчэ пяцёра дзяцей, потым яшчэ трое. Адны выраслі – іншыя прыходзілі. Цяпер у нас выхоўваюцца восем дзяцей. Васьмікласніца Паліна, чацвёртакласнік Улад, шасцікласніца Варвара, трое сямікласнікаў: Мацвей, Мікіта і Андрэй. У пятым класе вучыцца Глеб. Маленькі Мікіта, брат Андрэя, у школу яшчэ не ходзіць. Дзеткі з праблемных сем'яў часам маюць педагагічную занядбанасць, адстаюць у вучобе, і даводзіцца шмат з імі займацца, каб падцягнуць іх па асобных прадметах.

Акрамя праблем з вучобай бываюць і іншыя цяжкасці. Трэба разумець, што выхаваннем гэтых дзяцей ніхто не займаўся. Дзіця можа, да прыкладу, груба размаўляць, нават мацюкацца, не разумеючы, што лаянка – гэта дрэнна. Вядома, мы адвучваем ад такіх праяў, тлумачым, што нельга красці, браць без дазволу чужое, падманваць. Даводзіцца прывучаць да дысцыпліны, паслушэнства, супрацоўніцтва.

Забіраючы дзіця з нядобранадзейнай сям'і, будзьце гатовы, што ў яго могуць праявіцца кепскія якасці, але на гэтым зацыклівацца не трэба: дзіця з часам змяніцца. Многія баяцца, што "гены возьмуць сваё", але вырашальны фактар – гэта ваш станоўчы прыклад. Сярод першых маіх выхаванцаў была дзяўчынка, якая не разумела, што ў краме трэба разлічвацца за пакупкі, яна брала з паліц тое, што ёй падабалася. Гэта не было крадзяжом, проста ніхто не навучыў яе, як трэба сябе паводзіць у краме. Цяпер яна скончыла ВНУ, працуе, мае сям'ю. Няма безнадзейна дрэнных дзяцей, і ў вашых сілах дапамагчы ім стаць лепшымі.

Мае выхаванцы любяць сваіх прыёмных братоў і сясцёр, сваіх новых бацькоў, але не заўсёды ўмеюць выказаць любоў, праявіць эмацыянальнае цяпло: у сваіх сем'ях яны такога не бачылі. Я заўсёды прашу ў Бога мудрасці, каб правільна сябе паводзіць з гэтымі дзецьмі, не пакрыўдзіць хлопчыка ці дзяўчынку, якія і так траўміраваны. Мы стараемся ўсё рабіць разам: ідзём у лес па ягады, адпраўляемся адпачываць на прыроду, працуем у агародзе. Палова маіх выхаванцаў наведвалі музычную школу, гралі на розных інструментах. У нашай сям'і ў пашане музыка і спевы, гучаць флейта, акардэон, фартэпіяна. Я выхоўваю ў дзецях суперажыванне і гатоўнасць дапамагчы слабейшым, абараніць таго, каго крыўдзяць, і самім ніколі не крыўдзіць іншых.

Бацька Васіль Марцінавіч шмат часу праводзіць з хлопчыкамі. Мы набылі ў вёсцы домік і невялікі культыватар. Хлопцы любяць там бываць, кожны імкнецца дапамагаць па гаспадарцы. Тата ім давярае, і хлапчукі шчаслівыя. Дома яны таксама актыўна дапамагаюць – напрыклад, любяць кухарыць. Мы часта ўсе разам гатуем, пячом булачкі, піражкі, піцы.

Шасцёра маіх біялагічных дзяцей лічаць прыёмных сваімі братамі і сёстрамі. Усе мае дочкі – шматдзетныя мамы. У старэйшай, Алы, трое родных дзяцей і прыёмны сын. Алена мае траіх дзяцей, і, акрамя гэтага яна прыёмная мама, выхоўвае пяцярых дзяцей, хутка ў яе адкрыецца дзіцячы дом сямейнага тыпу. У Надзеі пяцёра дзяцей, у Вольгі чацвёра. Трое дзяцей і ў майго малодшага сына Іллі. Сын Андрэй выхоўвае дачку. Такая ўжо наша сям'я – мы любім дзяцей, у іх выхаванні знаходзім і шчасце, і сваё жыццёвае пакліканне.

*"Алеся".*

Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.
Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info
Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.
Заснавальнік, выдавец і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ



Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Отпечатано в АО «Прайм Принт Москва», 141707,МО, г.Долгопрудный, Лихачевский пр-д, 5В. Падпісана ў друк 07.09.2020 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 22 040 экз. Заказ № 2369.